









АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

3 лістапада 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 44 (2654)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ



## «ЦЯПЕР ВЕДАЮ, ШТО Я БЕЛАРУСКА»

"Пранікніся любоўю да Беларусі, унучачка", — сказала мне бабуля і павяла ў нядзельную беларускую школу. Тады мне было шэсць гадоў. Зараз — дзевяць. За гэты час я шмат чаго зразумела. Чаму "Беларусь"? Якая яна, гэтая зямля? Аб чым гамоняць яе бары?

Мая бабуля кажа, што ёй чуецца жалоба і смутак у гэтым гомане, бо ў час вайны загінуў яе бацька. Расці б ёй без бацькі, але бацьку замяніў другі чалавек. Ён таксама змагаўся ў партызанскім атрадзе. Доўга пасля вайны выходзілі самі сабой з яго плячэй асколкі снарада.

Цяпер я ведаю, што гэта геройчная і шматпакутная зямля. Кожны чацвёрты жыхар Беларусі загінуў у вайну.

Я была на Беларусі толькі пяць разоў, але ведаю пра яе даволі многа. У Браславе, амаль каля самай дарогі, плешчацца возера. "Глядзі, унучачка, якое прыгожае!" — кажа мне бабуля. Яна прапануе мне вывучыць вершык:

Зямля з блакітнымі вачамі,
Раздолле рэчак і лугоў!

Ехаць доўга, амаль чатыры гадзіны. Само сабой атрымліваецца, што мы пачынаем размаўляць на беларускай мове... Глыбокае, Заазер'е, Лясныя азёры. Так называюцца паселішчы. Сапраўды "зямля з блакітнымі вачамі".

Мы едзем у горад Лепель, што азначае лепей, прыгожы. Там два возеры. Адно вельмі вялікае і называецца Лепельскае. Другое невялічкае і кругленькае. Яно называецца Святое. Бабуля расказвала мне легенду пра яго. У горадзе працякаюць дзве ракі. Яны вельмі прыгожыя, і назвы ў іх дзіўныя — Ула і Эса.

У Лепелі нас вельмі ветліва сустракалі. У бабулі там многа сяброў і знаёмых.

Мы наведалі магілкі, дзе пахаваны мае продкі. Я паклала кветачкі.

Дадому мы вярталіся па іншых мясцінах. Абапал дарогі стаяў лес. У Латвіі няма такіх вялікіх лясоў. Да лесу прытуліліся вёскі: Бароўка, Баравое, Баравуха, Бораўна. Сустрэлася вёска з назвай Вялікае Сяло. У Латвіі такіх вялікіх вёсак няма. Тут больш хутары.

Цяпер я ведаю, што я беларуска. Ганаруся гэтым і хачу ведаць пра Беларусь яшчэ больш. У гэтым мне дапамагае нядзельная школа.

"Калі ласка!" — кажа нам наша настаўніца Таццяна Бучэль. У школе мы размаўляем на беларускай мове, знаёмімся з творчасцю беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, святкуем беларускія святы.

Яўгенія Гуляева дапамагае нам падрыхтавацца да святаў. Неаднойчы прыводзіла да нас артыстаў.

Станіслаў Валодзька чытае нам свае вершы.

Мне падабаецца хадзіць у школу. Прыемна сустракацца з людзьмі, якія прывучаюць нас, дзяцей, не цурацца Бацькаўшчыны і шанаваць беларускую мову, як самы вялікі скарб.

**Марына КУЦЫНА,**
**навучэнка беларускай нядзельнай школы.**
Латвія, г. Даўгаўпілс.




Музей, у якім сабраны старадаўнія прадметы быту і прылады працы тутэйшых сялян, адкрыўся ў дзіцячым садзе вёскі Касцюковічы Крычаўскага раёна. Тут лічаць, што любоў да зямлі трэба прывіваць з дзяцінства, а малыя павінны ведаць пра справы сваіх продкаў, каб захоўваць іх традыцыі.

СПОРТ



Вядомыя спартсмены японскай асацыяцыі каратэ-до наведалі Мінск, каб напярэдадні Алімпійскіх гульняў дапамагчы беларускім каратыстам адшліфаваць майстэрства.

Заняткі прайшлі ў чатырох стылях каратэ-сётакан, годзю-ру, шыто-ру, вадо-ру. У спартыўным комплексе ва Уручы адбыліся сумесныя паказальныя выступленні (на здымку).

**БелТА.**

СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ

## ВЯСНА І ВОСЕНЬ Надзеі ГРУШЫ

Пра тое, што Надзя злягла і ёй становіцца з кожным днём усё горш, мне паведамілі ў тэлефоннай размове прыкладна тыдзень назад сябра Федэральнай Рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі Алег Шнэк. Тады не думалася, што фінал наступіць так хутка. І вось жалобная вестка, якую перадаў супрацоўніцы Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Ніне Петуховай Надзін брат Міша. Яна памерла ад рака 25 кастрычніка.

Я і Ніна Петухова сустракаліся з Надзяй у розныя гады, яны пажаночку сышліся значна бліжэй, але адчуванне гэтай заўчаснай страты ў нас аднолькава балючае. Пераканаfailed: у глыбокай жалобе цяпер смуткуюць усе, хто сутыкнуўся з гэтым чулым, спагадным і добрым, душэўна і фізічна прыгожым, грамадска актыўным і самаахвярным чалавекам.

Нарадзілася Надзя 22 жніўня 1937 года ў Горках Магілёўскай вобласці ў вялікай, працавітай і дружнай сям'і, якой у тыя галодныя і трывожныя гады было нялёгка выжыць. А таму дзеці, крыху падросшы, дапамагалі бацькам па гаспадарцы і глядзелі меншых. Усіх разам было шасцёра — чатыры сястрычкі і два брацікі. Але з агню ды ў полымя: пачалася замешаная на людскім горы, слязах і крыві другая сусветная вайна. У вынiку — тысячы, мільёны знявечаных лёсаў. І іх сям'ю вайна падхапіла і закружыла ў сваім смяротным кругавароце. Але Бог сцярог. Спачатку лёс закінуў іх у Нямеччыну, а потым, у 1950 годзе, усёй сям'ёй патрапілі аж у Аўстралію. Невядомую і экзатычную. Ды ім, выгнанцам, было не да суцэх экзотыкай: трэба было выжываць, неяк асталёўвацца на новым месцы, шукаць, як зарабіць кавалак хлеба. А ў першыя паваенныя гады і там, у Аўстраліі, быў ён для беларусаў нялёгкім і несалодкім. Ратавала тое, што трымаліся разам, з адчуваннем братняга локця сярод іншых — палякаў, украінцаў, рускіх, славакаў, венграў... Кожная нацыянальная супольнасць была паяднана роднай моваю, культурай, традыцыямі і абрадамі, балючай памяццю пра Бацькаўшчыну, якая ўяўлялася ўсім назаўсёды страчанай, бо свет быў ужо падзеленым жалезнай ідэалагічнай заслонай "халоднай вайны".

Трымацца разам, быць самімі сабой беларусаў прывучыла бяда ды здабыты ад іншых досвед яшчэ там, у Нямеччыне. І мацавалася перакананне: мы ні ў чым не горшыя, а ў сім-тым мо і лепшыя за іншых. Бо ці не былі нашыя людзі для іншых узорам і прыкладам

(Заканчэнне на 6-й стар.).

КАСТРЫЧНІЦКІ АГЛЯД

# БУРЛІВАЯ «ЗАЛАТАЯ ВОСЕНЬ» БЕЛАРУСІ

● Галіна УЛІЦЁНАК.

Неяк ужо традыцыйна так складваецца, што сярэдзіна восені на прасцягах былога СССР — час досыць бурлівы, багаты на падзеі. Не стаў выключэннем і сёлетні кастрычнік. На Украіне выбіраюць прэзідэнта, у Расіі вядомыя і невядомыя палітыкі вылучаюцца ў дэпутаты Дзярждумы, узнікаюць палітычныя скандалы, палыхае вайна ў Чэчні. Іншыя рэспублікі таксама "не дрэмлюць". Ну а што ў нас?

На жаль, і Беларусь не абмінулі ўзрушэнні. У першую чаргу, я маю на ўвазе драматычныя падзеі 17 кастрычніка. Можна шмат высвятляць, хто вінаваты ў тым жорсткім сутыкненні. На жаль, сёння ў нас валадарыць прынцып: у кожнага праўда свая. Але наконт таго, што ў краіне адбываецца рост антаганістычнага напружання, спрачацца не варта. Хаця казаць тут пра глабальныя зрухі пакуль таксама зарана.

У кастрычніку ў сродках масавай інфармацыі апублікаваны праект Саюзнага дагавора паміж Беларуссю і Расіяй — для "ўсенароднага абмеркавання". Трэба адзначыць, тэкст дакумента выклікаў пэўную незадаволенасць беларускіх улад з-за нібыта сваёй недастатковай "радыкальнасці": у аб'яднаўчым працэсе беларускі бок планаваў пайсці значна далей, чым пакуль мяркуе Расія. Аднак і тое, што атрымалася, выклікала занепакоенасць за лёс незалежнасці краіны ў прадстаўнікоў нацыянальна свядомай часткі беларускага грамадства. Ды і ўвогуле, калі "пасаг" з аднаго боку — вайна, тэрарыстычныя акты, а з другога — працяглы эканамічна-фінансавы крызіс, цяжка казаць нешта пэўнае пра перспектыўнасць такога саюза.

Што тычыцца эканомікі. Па звестках афіцыйных урадавых справаздач і статыстычных даных, ёсць і поспехі. Магчыма. Калі ж меркаваць па звычайных штодзённых бытавых прыкметах — становішча пагаршаецца. На парозе зіма, але напружанне з палівам так і не знята. Больш таго, у беларускай правінцыі стала вельмі цяжка набыць балон з газам для побытавых патрэб (ежу зноў гатуюць у печы), вугаль, торф. Ацяпленне ў гарадскіх кватэрах падключана, але ў Мінску выканаўчыя ўлады папярэдзілі, каб людзі не чакалі ў кватэрах тэмпературу больш за 18 градусаў: трэба эканоміць паліва. Аднак адказныя чыноўнікі пераконваюць: цяпло будзе.

Цэны ў крамах і на рынках сiганулі, як тыя зайцы. Не вытрымоўвае і павялічаная з 1 кастрычніка мінімальная заработная плата. Афіцыйная заработная плата сёння ўвогуле большасць насельніцтва "не выратоўвае". Народ вымушаны, як гаворыцца, "круціцца", хто як можа. У сувязі з гэтым асаблівую значнасць набываюць уласныя падвор'і на вёсцы, дачныя ўчасткі, агароды — у гараджан, гандлёвыя "чаўночныя" (нярэдка нелегальныя) ваяжы ў Расію ў найбольш энергічнай часткі грамадзян.

З мэтай збіць "шматмільённы" ўціск у разліках (у абароце з'явілася пяцімільённая купюра) улады абвясцілі з 1 снежня 2000 года дэнамінацыю беларускіх грошай у 1000 разоў. З "мільянераў" беларусы ператворацца ў "тысячнікаў". Хаця многія ўжо прызвычаіліся "раскідвацца" мільёнамі, іншая справа, каб яны былі.

Але нягледзячы ні на што жыццё рухаецца наперад: адбываюцца вяселлі, растуць дзеці, людзі ходзяць на канцэрты, у тэатры. Таксама сапраўдным узрушэннем (на гэты раз узрушэннем са станоўчым знакам) для тэатральнай публікі сталі і драматычныя пастаноўкі ў рамках антрэпрызы Мікалая Пінігіна, які сёння ўжо, праўда, рэжысёр не наш, мінскі, а санкт-пецярбургскі, і чацвёрты міжнародны фестываль "Белая Вежа" ў Брэсце з удзелам артыстаў і тэатральных дзеячаў з ЗША, Польшчы, Швецыі, Літвы, Латвіі, Украіны, Расіі і Беларусі. Не пуставалі ўтульныя залы філармоніі, Вялікага тэатра оперы і балета. Годна адзначыў сваё 60-годдзе Нацыянальны мастацкі музей Беларусі — сапраўдная скарбніца нашай духоўнай культуры. Аматары мастацтва, што называецца, "валам валілі" на неардынарную выставу — дызайнерскі праект Уладзіміра Цеслера і Сяргея Войчанкі "Дванаццаць з XX". У Магілёве ідзе падрыхтоўка да чарговага фестывалю папулярнай песні "Залаты шлягер", куды збяруцца эстрадныя зоркі мінулых гадоў з краін СНД і далёкага замежжа. Вельмі важна, што фестывальныя шляхі пройдуць не толькі праз сталічны Мінск ці абласны Магілёў, але завітаюць і ў аддаленую правінцыю, у раённыя Дамы культуры, дзе людзі не спешчаны асаблівай увагай і забавамі. Таму кожная хвіліна прыемнага адпачынку там успрымаецца з вялікай удзячнасцю і шчырасцю. Вось артысты і едуць туды з задавальненнем.

Так, складаны кастрычнік выдаўся сёлета на Беларусі. Аднак, аддаючы даніну нашым шматлікім праблемам, не трэба забывацца, што кастрычнік — гэта яшчэ і пара "залатой восені", чароўнага "бабінага лета", а Беларусь надзвычай прыгожая ў промнях восеньскага сонца. І, нягледзячы ні на што, яна ёсць, яна жыве.

ЮБІЛЕІ

# ВЯРТАННЕ АЛЯКСАНДРА УЛАСАВА

**Музей Янкі Купалы наладзіў вечарыну, каб нагадаць грамадскасці пра юбілейную дату — 125-годдзе з дня нараджэння Аляксандра Уласава.**

А. Уласаў — заснавальнік і рэдактар першай беларускай газеты "Наша Ніва", часопісаў "Саха" і "Лучынка". Ён шмат зрабіў для выяўлення і падтрымкі літаратурнай моладзі і таленавітых людзей. Уласаў наладжваў літаратурныя сустрэчы моладзі. "Гэтыя вечарынкі, ды яшчэ беларускія, было нешта з раду выходзячае, арыгінальнае, маючае крыніцу з толькі што прабуджаючага народнага генія", — пісаў А. Уласаў у сваіх мемуарах "Дні жыцця".

Менавіта Аляксандр Уласаў заўважыў талент тады яшчэ маладога Янкі Купалы, што працаваў на бровары ў Яхімаўшчыне і дасылаў свае вершы ў рэдакцыю "Нашай Нівы". Неўзабаве Уласаў перацягне паэта з вёскі ў горад. Менавіта на старонках "Нашай Нівы" Янка Купала паўставаў як вялікі нацыянальны паэт. Пазней Уласаў рэдактарства газеты перадаў Янку Купалу.

Аляксандр Уласаў пражыў годнае, яскравае, насычанае працай жыццё. Усё, што атрымаў ад бацькоў і што набыў за нялёгкае жыццё, ён аддаў свайму народу, роднай Беларусі.

Да мерапрыемства прымеркавана выстава з асабістага архіва сям'і Уласава, фондаў музея.

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**
**старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы.**

БІЗНЕС-КЛУБ



На Ратушнай плошчы ў Віцебску адкрылася новае кафэ пад назвай "Віцебская карчма". Яго гаспадары Маргарыта Барышава і Уладзімір Радзецкі, аблюбаваўшы падвал аднаго са старых гарадскіх дамоў, стварылі там сапраўдны ўтульны куточак для наведвальнікаў.

НА ЗДЫМКУ: гаспадары кафэ Уладзімір РАДЗЕЦКІ і Маргарыта БАРЫШАВА.

МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ

# КАМІСІЯ ІКАО НАВЕДАЕ БЕЛАРУСЬ

Камісія Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі (ІКАО) наведае Беларусь на пачатку лістапада. Пра гэта паведамілі ў Дзяржаўным камітэце па авіяцыі Беларусі. Па словах спецыялістаў Дзяржкамавіяцыі, візіт інспектараў ІКАО стане першым пасля ўступлення Беларусі ў гэтую арганізацыю ў 1992 годзе. У склад камісіі ўвойдуць каля 10 чалавек — прадстаўнікоў авіяцыйных адміністрацый асобных дзяржаў — членаў ІКАО. Прадстаўнікі ІКАО плануюць правесці інспекцыйную праверку на адпаведнасць беларускіх нацыянальных нарматыўных патрабаванняў па падрыхтоўцы персаналу, падтрыманню лётнай годнасці паветраных суднаў рэкамендацыям Глабальнай стратэгіі забеспячэння бяспекі палётаў. Прадугледжваецца, што інспектары азнаёмяцца з работай Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі, а таксама беларускіх авіякампаній. У Дзяржкамавіяцыі адзначылі, што па выніках інспекцыі Беларусі ў рэкамендацыйнай форме будуць прадстаўлены прапановы работнікаў ІКАО па ўнясенню дапаўненняў і змяненняў у нацыянальныя патрабаванні па забеспячэнню бяспекі палётаў.

# ЯКАСЦЬ — БЕЗ КАМПРАМІСАЎ

У "Інтэграла" ва ўсе часы была рэпутацыя сур'ёзнага партнёра, вытворцы якаснай і надзейнай прадукцыі. І не дзіва: у аснову сістэмы якасці былі закладзены патрабаванні ваеннай прыёмкі, а таксама вялікая праца і адказнасць калектыву, дэвіз якога — "ніякіх кампрамісаў за кошт якасці".

Сёння на "Інтэграле" ваенныя заказы значна зменшыліся. Аднак патрабаванні да якасці прадукцыі засталіся на ранейшым узроўні. І нават сталі больш жорсткімі: намаганнямі спецыялістаў і кіраўнікоў навуковага падраздзялення і галаўнога завода пры метадычным кіраўніцтве Дзяржстандарта Рэспублікі Беларусь і Мінпрама сістэма якасці прадпрыемства пастаянна ўдасканальвалася, даводзілася да стану патрабаванняў міжнародных стандартаў ISO 9000.

Вынік — два сертыфікаты нацыянальнай сістэмы сертыфікацыі Рэспублікі Беларусь і міжнароднай сеткі якасці IQNET. Сёння "Інтэграл" практычна адзіны ў краіне валодае сістэмай кіравання якасцю, сертыфікаванай па поўнай мадэлі ISO 9001.

На прадпрыемстве лічаць, што сертыфікацыя сістэмы якасці дазволіць больш гібка рэагаваць на патрабаванні сусветнага рынку і партнёраў па міжнароднай кааперацыі, а прадукцыі аб'яднання — дасягнуць міжнароднага прызнання.

**Сяргей РАМОНАЎ.**

АФІЦЫЙНА

# І ЗНОЎ ДЭНАМІНАЦЫЯ

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі "Аб змяненні намінальнай вартасці грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь і маштабу цэн" ад 19 кастрычніка 1999 года № 613 з 1 студзеня 2000 года змяняюцца намінальная вартасць грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь і маштаб цэн у 1 000 разоў.

У сувязі з гэтым 20 кастрычніка адбылося пасяджэнне савета дырэктараў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. На ім было адзначана, што разліковыя білеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь узору 1992—1999 гадоў выпуска будуць заменены на білеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь узору 2000 года па суадносінах 1 000 рублёў старога ўзору на 1 рубель у новых грошах ўзору 2000 года.

Мэтай правядзення мерапрыемстваў па змяненню намінальнай вартасці грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца ўмацаванне грашовай адзінкі дзяржавы, упарадкаванне грашовага абарачэння, аблягчэнне ўліку і разлікаў. Пры гэтым асоба было падкрэслена, што ўладальнікі грошай не панясуць якіх-небудзь страт і замена грашовых знакаў будзе праводзіцца паступова ў працэсе іх абарачэння.

Як было сказана на савеце дырэктараў, Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь з 1 студзеня 2000 года будуць выпушчаны ў абарачэнне новыя білеты наміналам 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1 000 і 5 000 рублёў. З мэтай хуткага прывыкання насельніцтва да новых грашовых знакаў у асноўным захоўваецца іх ранейшы выгляд з намінальнай вартасцю, зменшанай у 1 000 разоў.

У такой жа прапорцыі будуць зменшаны цэны на тавары і паслугі, пералічаны рахункі ў банках, балансавыя даныя справаздач усіх юрыдычных асоб і іншыя абавязацельствы, якія маюць грашовую ацэнку.

Разліковыя білеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь узору 1992—1999 гадоў выпуску застаюцца ў абарачэнні на тэрыторыі нашай краіны на працягу ўсяго 2000 года і абавязковыя да прыёму ўсімі юрыдычнымі і іншымі асобамі ва ўсе віды плацяжоў, а таксама банкамі для залічэння ва ўклады, дэпазіты, на бягучыя (разліковыя) і іншыя рахункі без усякіх абмежаванняў з разліку адной тысячнай іх намінальнай вартасці. Пры гэтым прамы абмен грошай старога ўзору ўстановамі банкаў праводзіцца не будзе. А з 1 снежня 2000 года ўсе ўстановы банкаў будуць выдаваць кліентам білеты толькі новага ўзору. Старыя грашовыя знакі, пачынаючы з 1 студзеня 2001 года, можна будзе абмяняць ва ўстановах Нацыянальнага банка, але не пазней 31 снежня 2003 года.

У перыяд паралельнага абарачэння грашовых знакаў старога і новага ўзораў ва ўсіх месцах продажу тавараў і аказання паслуг у цэнніках абавязкова будуць указвацца рублёвыя цэны як у старым, так і ў новым маштабах.

Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь будуць прыняты ўсе меры для таго, каб працэс замены грошай прайшоў спакойна і безбалюча.

**Упраўленне інфармацыі Нацыянальнага банка РБ.**

ПАМЕЖЖА



Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.



Пагранічны пост "Суботнікі" Лідскага пагранатрада атрымаў у сваё распараджэнне сёлета новы будынак з добраўпарадкаванай тэрыторыяй і гаспадарчымі пабудовамі. Вялікай падмогай пагранічнікам становяцца юркія матацыклы Мінскага матавелазавода. З разуменнем ставяцца да запатрабаванняў ахоўнікаў беларуска-літоўскай мяжы ў Іўеўскім райвыканкаме, на чыёй тэрыторыі знаходзіцца пагранічны пост.

НА ЗДЫМКАХ: так выглядае сёння пагранічны пост "Суботнікі"; кантрактнік сяржант Юрый КІСЛЫ і намеснік начальніка паста лейтэнант Дзяніс ПЯТНІЦКІ для нясення службы выкарыстоўваюць матацыклы.



РЭПАРТАЖ З ЛАБАРАТОРЫІ

# ЛЕС... У ПРАБІРЦЫ



Ля паўднёвай мяжы Мінска прытулілася вёсачка Шчомысліца. Славіцца яна старасвецкай дубровай, дрэвы ў ёй магутныя, стаяць у задуменні, нібы асэнсоўваюць тое, што пабачылі на сваім вяку. А побач пад засенню ліп і хвой — непрыкметная хата, звычайная сялянская, толькі доўгая.

У ёй размяшчаецца лабараторыя Рэспубліканскага ляснога селекцыйна-насенняводчага цэнтра. Мне давялося быць тут некалькі гадоў таму. І цяпер, як і тады, засталося прыемнае ўражанне: у невялікіх пакоях утульна, ціха. Лабаранткі ў белых, як медыкі, халатах, працуюць засяроджана. Звыклымі рухамі сартуюць насенне з прабірак, уважліва правяраюць кожнае зярнятка, затым разглядаюць яго пад мікраскопам, робяць вывады пра якасць.

Насенне сасны, елкі паступае ў лабараторыю ў прабірках з лясгасаў Беларусі. З пачатку года ўжо нарыхтавана каля дзесяці тон. Яно ў асноўным першага і другога класа, трэцяга толькі пяць працэнтаў.

— За апошнія гады ў нас пабольшала абавязкаў, пашырылася кола дзейнасці, — расказала кіраўнік аддзела насенняводства і лесааднаўлення Зоя Палуянава. — Не абмяжоўваемся работай у лабараторыі, праверкай наяўных якасцей насення. Вядзём таксама кантроль за лесааднаўленнем, станам лесанасеннай справы ў лясгасах, насенняводствам.

Да 2005 года пяцьдзесят працэнтаў рукатворных лясных угоддзяў належыць заняць саджанцамі, вырашчанымі з насення, атрыманага ад элітных дрэў. Цяпер гэты паказчык — дваццаць працэнтаў.

— Пастаўлена задача, — гаворыць намеснік дырэктара цэнтра Мікалай Маліноўскі, — пры стварэнні лясоў будучыні надаць ім у асноўным мэтавае прызначэнне, гэта значыць вырошчваць сыравіну канкрэтна для запалкавай, мэблевай і іншых галін прамысловасці.



Тут зноў не абысціся без дапамогі калектыву лабараторыі, яго парад, кантролю.

Так што будучы лес пачынаецца і ў лабараторыі.

— Восемдзесят—сто гадоў патрэбна, каб вырас спелы сасновы і яловы лес. Значыць, работа калектыву лабараторыі, як і ўсіх сённяшніх лесаводаў, дасць плён пад канец першага стагоддзя трэцяга тысячагоддзя, — падзяліўся сваім роздумам Мікалай Маліноўскі. — Хочацца, каб нашчадкі за створаны намі рукатворны лес успомнілі нас добрым словам, атрымалі ад яго і задавальненне, і карысць.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

НА ЗДЫМКАХ: лабаранткі Таццяна ВЕРАМЕЙЧЫК (злева) і Наталля ЧЫЧУК вызначаюць пасяўную якасць насення; інжынер-фіталесапатолаг Наталля ПЯТЛІЦКАЯ.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ЗАХАПЛЕННІ

# СКАЧЫ Ў МАРУ, КОНЬ БУЛАНЫ

Колькі паданняў і легенд звязана з нашым верным і незаменным памочнікам! Старажытныя эліны абагаўлялі міфічнага кентаўра. З далёкіх часоў дайшло да нашых дзён імя Хірона, кентаўра, які вучыў прыгажуна Апалона мастацтву музыкі, спеваў і розным навукам.

Не перавяліся аматары коней і ў наш неспакойны час. Досыць наведаць конна-спартыўныя святы ў пасёлку Ратамка, што пад Мінскам, каб пераканацца ва ўсенароднай любові да коней.

А некалькі месяцаў назад мне давялося пазнаёміцца з энтузіястамі конна-спартыўнага клуба "Хрустальная падкова", які знаходзіцца ў Мінску, на вуліцы Парніковай, 14. На невялікім пясочным манежы школьніцы-конніцы пад наглядам інструктара ўпэўнена кіравалі прыгажунамі гнядой масці.

Відовішча аказалася велічным і інтрыгуючым. Праз некалькі мінут заняткі скончыліся, і невялікая група дзяўчынак адзінаццаці, дванаццаці гадоў падбегла да бацькоў. А я звярнуўся з некалькімі пытаннямі да інструктара Таццяны Сцепа. Яна ахвотна расказала, што клуб "Хрустальная падкова" ўтварыўся гады тры назад. Галоўны заснавальнік — фірма "Белая грыва". Яна займаецца выпускам конна-спартыўнай амуніцыі і вупражы для рабочых коней. Перад клубам ставіцца мэта — папулярызаваць конны спорт.

Трэнінгам спартыўных коней фірмы "Белая грыва" ў пасёлку Ратамка займаюцца майстар спорту Марат Барысенка і кандыдат у майстры Кацярына Барысенка. Марат раней займаўся трохбор'ем, уваходзіў у маладзёжную зборную Беларусі.

Прагулачныя коні на Захадзе называюцца "коні хобі-класа", іншымі словамі — "коні для задавальнення". Зрабіўшы першыя крокі ў "Хрустальнай падкове", многія мінчане застаюцца ў клубе. Значыць, мэта, пастаўленая перад трэнерамі, дасягнута. "Хрустальная падкова" дапамагае асвоіць азы коннай язды, навыкі абыходжання з коньмі.

Адбору пры прыёме ў клуб не існуе. У "Хрустальную падкову" прыходзяць людзі незалежна ад узросту. Часта здараюцца сітуацыі, калі дзеці, якія зрабілі ў клубе першыя крокі, падужэўшы, праз некаторы час прыводзяць тату ці маму. Здараюцца і кур'ёзы. Аднойчы малы запрасіў у клуб бабулю і заявіў, каб трэнеры навучылі бабулю коннай яздзе. Для кожнага жадаючага супрацоўнікі клуба падбіраюць коней па росту, узросту і характару.

"Хрустальная падкова" — недзяржаўная структура. Яна функцыяніруе на аснове самафінансавання. Як гаворыцца, коні кормяць саміх сябе.

С пачатку заснавання клуба яго нязменным дырэктарам і выдатным арганізатарам, вакол якога сабраўся дружны калектыў, з'яўляецца Аляксандр Жаўнерчык. Побач з ім тры інструктары: Аляксандр Галавач, Наташа Валадзько і Таццяна Сцепа.



У клубе ёсць два экіпажы для выезду ў навакольныя лясы і палі. Дзяўчынкі, якія пастаянна займаюцца з коньмі, катаюць дзяцей у дзіцячых садах, парках. Супрацоўнікі "Хрустальнай падковы" абслугоўваюць вяселлі, удзельнічаюць у гарадскіх святах, кіна- і відэаздымках, у рэкламных роліках.

Клуб "Хрустальная падкова" чакае новых сяброў.

**Сяргей ШЫРАЕЎ.**

ФОТА-ФАКТ



Вось такую незвычайную моркву, падобную на чалавечаю руку, выкапаў на прысядзібным участку трэцякласнік з Віцебска Аляксей МІХАЛЕВІЧ.

**БелТА.**

ЗДАРЭННІ

### ЗАТРЫМАНА КАНТРАБАНДА

На чыгуначнай станцыі горада Калінкавічы ў рамках аперацыі "Мяжа" пры даглядзе двух чыгуначных кантэйнераў, якія накіроўваліся транзітам праз Беларусь у Кіеў, прадухілена спроба кантрабанднага перамяшчэння праз дзяржаўную граніцу зброі.

Пры даглядзе выяўлены і канфіскаваны малакаліберная вінтоўка ТОЗ і 700 патронаў да яе, 16 патронаў да пісталета Макарава, 10 патронаў да газавай зброі, 130 патронаў і іншых прылад да паляўнічага ружжа.

### «КАЗЕІНАВЫЯ» ГРОШЫ

Грашовыя рэкі ўмелі рабіць з малака некаторыя службовыя асобы Ляхавіцкага малочнага завода. Пракуратурай Брэсцкай вобласці яны абвінавачваюцца ў тым, што тры гады назад стварылі лішкі тэхнічнага казеіну больш чым на 1 мільярд рублёў, а затым укралі прадукт. Паводле паведамлення прэс-цэнтра Пракуратуры, нядаўна было завершана следства па гэтай справе. Наперадзе суд.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

# ЦЭНТР ГІСТАРЫЧНАЙ ДУМКІ

У красавіку 1931 года Інстытут гісторыі ўзначаліў Павел Горын (Каляда), ён таксама з'яўляўся прэзідэнтам БелАН. Да пераезду ў Беларусь Горын працаваў намеснікам дырэктара Інстытута гісторыі Камуністычнай акадэміі ў Маскве. У 1936 годзе яго зноў перавялі ў сталіцу, дзе ў жніўні 1937 года быў беспадстаўна рэпрэсіраваны. У 1936—1937 гадах Інстытут узначальваў акадэмік Васіль Шчарбакоў. Ён таксама 21 чэрвеня 1937 года быў арыштаваны, а затым расстраляны ў Мінску. Беспадстаўна ў 30-я гады былі асуджаны акадэмікі Стасіс Матулайціс, Якаў Рыўлін, член-карэспандэнт Самуіл Агурскі, кандыдаты гістарычных навук Канстанцін Кернажыцкі, Аляксандр Ляўданскі і іншыя. Усяго было рэпрэсіравана каля 20 чалавек. Толькі нямногія з іх засталіся ў жывых і вярнуліся да актыўнай навуковай дзейнасці.

Вострая ідэйна-тэарэтычная барацьба вакол пытанняў гісторыі Беларусі, рэпрэсіі навукоўцаў садзейнічалі ўзмацненню праяў дагматызму ў гістарычных даследаваннях. Тым не менш з 1929 да 1941 года супрацоўнікі інстытута апублікавалі 32 манаграфічныя працы. На пачатак 40-х гадоў у складзе інстытута налічваліся тры секцыі: гісторыі народаў СССР і БССР, археалогіі, этнаграфіі і фальклору. Колькасць супрацоўнікаў складала 22 чалавекі, з якіх 4 мелі ступені доктара і 6 — кандыдата навук.

Стваральная праца супрацоўнікаў інстытута была перарвана Вялікай Айчыннай вайной. Некаторыя эвакуіраваліся ў савецкі тыл. Яны падпарадкавалі сваю работу задачам мабілізацыі беларускага народа на барацьбу супраць фашысцкіх захопнікаў. Важнае месца сталі займаць распрацоўкі і прапаганда ваенна-гістарычнай тэматыкі, раскрыццё гераізму беларускага народа ў барацьбе з захопнікамі. У 1942 годзе Прэзідыум АН БССР стварыў камісію па вывучэнні гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.



*Канстанцін КЕРНАЖЫЦКІ.*

Шэраг супрацоўнікаў са зброяй у руках абаранялі Радзіму на фронце, у партызанскіх злучэннях, удзельнічалі ў падпольнай барацьбе на часова акупіраванай ворагамі тэрыторыі. Сярод прызваных у Чырвоную Армію былі кандыдаты навук Дзяніс Дудкоў, Яфім Шлосберг, аспіранты Адам Залескі, Зіновій Капыскі і іншыя.

Воляй абставінаў у акупіраваным Мінску аказаўся дырэктар інстытута Мікалай Нікольскі. Гітлераўцы ў прапагандысцкіх мэтах намагаліся выкарыстаць яго імя, неаднаразова прапаноўвалі супрацоўніцтва. Але вучоны, які падтрымліваў сувязь з партызанамі, у жніўні 1943 года быў перапраўлены ў партызанскую зону, а ў сакавіку 1944-га перавезены на самалёце ў Маскву. Ён узначаліў створаны 16 чэрвеня 1944 года па рашэнню Прэзідыума АН БССР Інстытут гісторыі. У красавіку 1945 года калектыў інстытута вярнуўся з эвакуацыі ў Мінск. Працаваць даводзілася ў складаных умовах, не хапала самага неабходнага, у тым ліку памяшканняў. На 1 студзеня 1947 года агульная колькасць супрацоўнікаў склала 31 чалавек. Сярод іх — шэсць кандыдатаў і два дактары навук — Мікалай Нікольскі і Уладзімір Перцаў. Яны і прадстаўлялі ў Беларусі гісторыкаў вышэйшай кваліфікацыі, з'яўляючыся буйнымі спецыялістамі ў галіне ўсеагульнай гісторыі. Дактароў навук па спецыяльнасці "Гісторыя СССР і БССР" у той час у рэспубліцы не было.

У пасляваенныя гады вучоныя інстытута разгарнулі даследаванні па многіх напрамках гістарычнай навукі. Але працаваць даводзілася ва ўмовах ідэалагічнага дыктату. Партыйныя ўстаноўкі былі апошнім словам у тэорыі і практыцы, бесспрэчнай ісцінай. Адыход ад іх лічыўся здрадай прынцыпам марксізму-ленінізму, бальшавіцкай ідэалогіі. Асноўныя намаганні калектыў накіроўваў на напісанне "Гісторыі БССР". Гэта работа пачалася яшчэ ў даваенны час і была актывізавана гістарычнай групай Аддзялення грамадскіх навук БССР у Маскве пасля дакладной запіскі сакратара ЦК КП(б)Б Цімафея Гарбунова "Аб напісанні гісторыі Беларусі", накіраванай 25 ліпеня 1943 года першаму сакратару ЦК КП(б)Б Панцеляймону Панамарэнку.

У жніўні 1946 года ўбачыў свет першы выпуск, які ахопліваў перыяд ад першабытна-абшчыннага ладу да XII стагоддзя. Але ідэалагічныя структуры ЦК КП(б)Б убачылі ў кнізе шмат тэарэтычных і фактычных памылак. Галоўнай крамолай калектыўнай працы лічылася тое, што яна была напісана пад уплывам "нацыяналістычных, антынавуковых і лжывых" канцэпцый, выкрытых партыяй. Таму пасля абмеркавання першага выпуску на пашыраным пасяджэнні вучонага савета інстытута ў лістападзе 1946 года было прынята рашэнне пачаць работу па карэннай перапрацоўцы, падрыхтоўцы новага выдання.

По заданню ЦК КП(б)Б у 1948 годзе Інстытут гісторыі надрукаваў тэзісы "Аб асноўных пытаннях гісторыі БССР". У іх распрацоўцы прымалі ўдзел А. Воранава, Н. Каменская, Я. Карнейчык, М. Нікольскі, У. Перцаў, К. Палікарповіч, А. П'янкоў, К. Шабуня, Я. Шлосберг і іншыя. Тэзісы мелі на мэце аблягчыць напісанне гісторыі Беларусі, "выкласці ў сістэматызаваным выглядзе важнейшыя пытанні гісторыі беларускага народа, кіруючыся марксісцка-ленінскім разуменнем працэсу гістарычнага развіцця", якое з'яўляецца "асновай найглыбейшай перакананасці ў гістарычнай неабходнасці і правільнасці савецкага, камуністычнага шляху развіцця нашай краіны".



*Уладзімір ПІЧЭТА.*

**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**доктар гістарычных навук,**
**прафесар.**

Працяг.
Пачатак у № 43.



…славянскіх
… 1882. С.
…ве) нават
…ражытнас-
…ьск быў
…жскіх кня-
…язёў мелі
…аражытны
…нуў.
…оддзя Ель-
…ўнікі зусім
…даў, якія
…анцыі па
…енняў. Ці-
…роду Спа-
…ных мясці-
…Беларусі і
…ад назваў
…ў, якімі ва-
…радзілася
… продкі гэ-
…ьскіх былі
…анню.

Такім жа з'яўляецца і найменне вёскі Аляская (Аляское), якую з 1919 года, аднак, афіцыйна называюць **Розай Люксембург.** Гэтую апошнюю назву можна лічыць недарэчнай з лінгвістычнага пункту гледжання (чаго вартыя такія, напрыклад, выразы, як "паеду ў Розу Люксембург" ці "жыву ў Розе Люксембург"). Але ж супраць лінгвістычнага "казыра" ёсць не менш важкі гістарычны довад. Сітуацыя ж у выніку — сапраўды драматычная.

Дзесьці паміж 1860 і 1870 гадамі побач з вёскай Аляское (Аляская) узнікла калонія нямецкіх сялян-перасяленцаў. Хутка гэтая калонія пачала называцца **Анзельмаўкай** (ад нямецкага асабовага імя **Ансельм**). Недалёка ад Анзельмаўкі вырасла яшчэ адна калонія — **Найманаўка** (ад прозвішча заснавальніка пасялення ці кіраўніка групы каланістаў — нейкага Наймана). На поўнач ад Аляскскога існуе вёска Камуна, якая да 1920 года называлася

# …Е)… …СЕМБУРГ

…ы слоўнік
…канцы XVII
…дзяў Ельск
…ам, а яго
…кі аднача-
… растам.
…амест наз-
…ыстоўвац-
…якое пахо-
…Караль. Ві-
…х уладаль-
…е імя, а яго
…ы ўвекаве-
… бацьку ці
…ераймена-
…лін. І тое,
…ва **Каралін**
…і справяд-
…к — гэта
…нае абаз-
…з самых
…ых пунктаў

**Анзельмава.** Гэта была трэцяя нямецкая калонія на ельскай зямлі. Назвы **Анзельмаўка** і **Анзельмава** могуць тлумачыцца не толькі ад асабовага імя **Ансельм,** але і ад прозвішча **Анзельм** (цікава, што польскі "Геаграфічны слоўнік…", на які мы вышэй спасылаліся, згадвае сям'ю ці род Анзельмаў, якім належалі землі і ўрочышчы вакол Ельска ў 80-я гады XIX стагоддзя).

Менавіта немцы з пасяленцаў, якія існавалі побач з палескай вёсачкай Аляское (Аляская), і былі ініцыятарамі прысваення ў 1919 годзе імя Розы Люксембург той мясцовасці, дзе яны жылі. Здарылася гэта неўзабаве пасля трагічнай смерці нямецкай рэвалюцыянеркі. Вёска Аляское (Аляская) стала цэнтрам нацыянальнага Роза-Люксембургскага сельсавета. З ёю зліліся нямецкія пасяленні — Анзельмаўка і Найманаўка. Адзіны населены пункт з таго часу і называецца **Роза Люксембург,** хоць найменне **Аляское (Аляская)** дагэтуль жыве ў неафіцыйным мясцовым выкарыстанні. Да вайны ў вёсцы Роза Люксембург была нямецкая школа, мясцовыя немцы падтрымлівалі сувязі са сваімі суайчыннікамі ў Паволжы. Потым звесткі аб немцах з Розы Люксембург знікаюць. Што стала з імі? Ці жывуць дзе-небудзь іх патомкі?

Вось такая гісторыя. Як бачым, сітуацыя з назвай **Роза Люксембург,** якая не можа лічыцца здавальняючай, бо з'яўляецца чужародным "украпленнем" у тапанімічную сістэму Беларусі, не адпавядае структурна-граматычным і семантычным асаблівасцям беларускіх тапонімаў, выглядае, аднак, вельмі далікатнай. Выхад з сітуацыі мог бы быць наступным. Найменне **Аляское (Аляская),** паколькі яно жыве ў мясцовай гаворцы, афіцыйна вяртаецца на карту, а імя Розы Люксембург, якое, як мы бачым, не зусім штучна і насільна звязана з гэтай мясцовасцю, захоўваецца ў найменні Роза-Люксембургскага сельсавета. Але ж гэта толькі наша прапанова, якая грунтуецца на тых лінгвістычных і гістарычных фактах, якія мы нагадалі, а таксама на нашым асабістым перакананні, што тапанімія Беларусі, у прыватнасці, назвы населеных пунктаў, як частка духоўнай спадчыны беларускага народа, патрабуе пэўнага ўпарадкавання, асабліва з улікам перайменаванняў, якія рабіліся ў савецкі час.

…елТА.

…сь МАЦ-
…ы Фарна-
…Х стагод-

**СПАДЧЫНА**



Народны майстар з вёскі Дулеўцы Ваўкавыскага раёна Зінаіда ЛАЗУТА.



Аматараў беларускай славеснасці не можа не парадаваць, што пры "Таварыстве беларускай мовы" створана бібліятэка рарытэтаў, у якой ужо больш за дзвесце выданняў. Гэта кнігі беларускія і пра Беларусь на многіх мовах. Ёсць тут мюнхенскія выданні Янкі Купалы і Якуба Коласа, кнігі з бібліятэкі Віленскай беларускай гімназіі.

НА ЗДЫМКУ: супрацоўнік бібліятэкі Людміла ГУШЧЫНСКАЯ дэманструе кнігі з бібліятэкі Віленскай беларускай гімназіі, выдадзеныя ў пачатку стагоддзя.

**БелТА.**

**ПАЭТКІ ДВАЦЦАТЫХ**

# НЕВЯДОМАЯ Ганна БРЭСКАЯ

## ФРАНЦІШКУ СКАРЫНЕ

Сёньня сонца нам радасьцю
сьвеціць,
Заліло ясным золатам дзень.
Я хачу праз сівыя сталецьці
У мінуўшчыны даль паглядзець.

Зелянеюць на гонях пасевы,
Сочнай руньню ўзышоў маладняк.
— А ў вякох непраглядная цемень
Засьцілала жыцьцёвы шлях.

Ой вы, родныя сьпелыя нівы!
Хто вам цьвёрдую глебу узьняў?
…Мне прыпомніўся
вобраз Скарыны
З поўнай жменяй
жамчужын-зярнят.

Запаліў ты праменьнем іскрыстым
Крыўдай вечнай засмучаны край.
По грунтовай зямлі камяністай
Сьвежай ранай прайшла баразна.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нахілілася долу калосьсе,
Ціхім шэптам вітаньне нам шле,
Рассыпаецца чырваньню сонца,
Усьміхаецца радасны дзень.

1926 г.

* * *

У маіх думках калышацца хмель,
Васількамі шумяць ручайкі.
Не сягоньня, дык заўтра мой дзень
Будзе мілы, пяшчотны такі.

Шмат было. Нават шмат адцьвіло.
Ды чаго, ды аб чым сумаваць…
Празьвініць рой разбуджаных слоў,
Буду ласкі яшчэ сустракаць.

Я сьпяваю аб сьветлай вясьне
Паміж гор, дзе цякуць раднікі.
У маіх думках калышацца хмель
У маіх песьнях — ізноў васількі.

1927 г.

* * *

*Прысьвячаю Петрусю БРОЎКУ*

Шчасьце горн,
а жыцьцё гэта кузьня —
перазвоны, напевы і лязгі.
Эх, Пятрусь!
сінявокі Пятрусь мой —
з простай песьняй,
з душой нараспашку.

Так бывае,
што слова ня знойдзеш,
калі шмат
чаго хочаш сказаць.
Не накінеш на сэрца паводзьдзі,
Калі б'ецца з жыцьцём неўпапад.

І калі часам —
пуста і нудна,
Я маўчу, пакуль згоіцца боль.
Не сасватаем буйную удаль,
З чарнакрылай і лёгкай журбой.

А па-твойму —
ўсё проста і ясна:
шчасьце горн,
а жыцьцё гэта кузьня;
Перазвоны, напевы і лязгі,
Эх, Пятрусь!
сінявокі Пятрусь мой!

1927 г.

## ЧЫРВОНЫ МАК

Чырвоны мак
абвеенай галоўкай
ківае мне, як стары добры сябра…

Тых дзён няма, —
пранесьліся далёка,
іх не вярнуць
і ў песьнях не абняць.

Я помню дні у сонечных запалах,
я помню дні у віхрах барацьбы…
і хоць цяпер пялёсткі пазрывала,
а не астыў юнацтва пыл.

Стаю адзін, а захад пунсавее,
і вецер трэпле ў кудрах сівізну,
я знаю, што зімовыя завеі
прарочаць нам
сусьветную вясну.

Тых дзён няма…
Здаецца, так далёка
і маладосьць ня вернецца ізноў…
Чырвоны мак
ківае мне галоўкай
і сыпле зерне ў прэлы чарназём.

1928 г.

## ПРЫМІТЫЎ

На палянцы
На зялёнай
Усю ноч
Зьвініць гармонік.
Ой, пайду я, маладая,
Ой, пайду я пагуляю…
Там рассыплю
Сьмехі-жарты,
Шчасьце любаму
Аддам там.

Над зялёнай
Над палянай
Заблудзіўся
Месяц п'яны,
І туман сінявалосы
Распусьціў
Густыя косы,
Косы легкія, як дым.

А гармонік
Грае, грае,
А гармонік
Заклікае
На зялёную паляну…
Там
Чакае
Мяне Янка —
Камсамолец
Малады.

1929 г.

## ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ

Распускаюцца крыльлі,
хочацца жыць…
Песьняй славіць
вясну маладую.
Што было,
што прайшло, —
ты аб тым не кажы,
адшумеўшым
душы не хвалюй…
Помню чорныя ночы бяссоньня:
стынь, імгла…
…Я адна…
Муж ў піўной,
муж з другой.
У калысцы галодны дзіцёнак.
А на сэрцы —
тупы боль…
. . . . . . . . . . . . . .
А сягоньня
чуць дзень спазараньня
разбудзіў нас
фабрычны гудок.
Я стаю ля станка,
ўсё мацнее рука.
Шэпчуць пасы машын:
ты жыві,
ты пішы,
ты пішы,
Ты жыві!
Паўтараюць рамні:
Ты працуй!
Ты —
любі!
Распускаюцца крыльлі,
наўперадзе шар…
Жыць!
І славіць вясну маладую…
Мы
ідзем,
мы расьцем,
мы —
будуем!

1931 г.

Пачатак у № 40—41.

**МУЗЕЙНАЯ ЭКСПАЗІЦЫЯ**

# У НАС ЦУДОЎНАЯ КРАІНА

## ПРАЦАВІТЫ ЧАЛАВЕК ТУТ З ГОЛАДУ НІКОЛІ НЕ ПАМРЭ

**Калісьці ў Беларускім гісторыка-краязнаўчым музеі быў аддзел прыроды, які карыстаўся шырокай вядомасцю. Аднак з цягам часу некаторыя экспанаты састарэлі, да таго ж з'явіліся новыя падыходы да музейнай справы. У выніку замест аддзела стварылі асобны музей прыроды і экалогіі. Ён застаўся ў ранейшым будынку ў Мінску, але экспанаты істотна абнавіліся.**

Экспазіцыя новага музея дае магчымасць наведвальнікам за гадзіну-другую "пабываць" у розных кутках Беларусі. Пазнаёміўшыся з яго экспанатамі — парадуешся, што наша краіна такая прыгожая і багатая.

У апошнія гады нярэдка можна пачуць, што ў Беларусі вельмі мала ўласных прыродных рэсурсаў, карысных выкапняў, што яна самастойна без падтрымкі некага іншага не пражыве. Але гісторыя, факты сведчаць адваротнае: беларусы вякамі жылі на сваёй зямлі не так ужо бедна. У нас хапае прыроднага багацця, каб забяспечыць народу дастойнае жыццё. Узяць, да прыкладу, лес. Ён займае трэцюю частку тэрыторыі краіны. Гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў у Еўропе.

Кожны з нас бываў у лесе, любаваўся яго хараством, дыхаў свежым паветрам. Збіраў духмяныя суніцы, чарніцы, крамяныя баравікі. Яны таксама паказаны ў экспазіцыі музея. Экспанаты зроблены дакладна, так, што бачыш лясныя дары нібы ў натуры, быццам сам знаходзішся сярод іх, у лесе.

Без лесу нельга ўявіць наша жыццё. Мы карыстаемся не толькі яго дарамі. Нашы кватэры напоўнены вырабамі з драўніны. Яна шырока прымяняецца ў вытворчасці.

Здараецца, можна пачуць пра нашу краіну, нібыта яна і маленькая, і прырода яе аднастайная, шэрая. Але толькі сляпыя, па выразу Максіма Багдановіча, як краты, могуць падобнае плясці. Той, хто відушчы, убачыць красу блакітнага віцебскага Паазер'я, ласкавага Палесся, гарыстай Міншчыны, лагоднага Панямоння… Якія гэта розныя па прыродных умовах, па прыгажосці мясціны! Ды багатыя! У нас ёсць фактычна ўсё: калійная соль, нафта, жалезная руда, харчовая соль, фасфарыты, каменны вугаль, золата, бурштын, торф, вадкія металы, алмазы… Не ў прыклад, скажам, Японіі ці Фінляндыі, дзе пра падобнае могуць толькі марыць.

А якi разнастайны ў Беларусі жывёльны свет. Капытныя, птушкі, звяры, пчолы, рыба заўсёды былі спадарожнікамі беларуса, кармілі яго, апранаді.

Пра многае задумваешся, многае згадваецца ў Музеі прыроды і экалогіі. Мне ўспомніліся словы майго аднакурсніка, вядомага пісьменніка Івана Чыгрынава: "Беларусь — цудоўная краіна. У нас чалавек з голаду ніколі не памрэ! Не ўродзіць збожжа — уродзіць бульба. Капуста, памідоры, агуркі, грыбы, ягады, садавіна — калі не ўсё, то нешта вырасце. Не, не загіне ў нас руплівы чалавек".

Мне вельмі падабаецца наш Музей прыроды. У ім грунтоўна паказана беларуская прырода, яе прыгажосць, багацце нетраў, раслінны і жывёльны свет. Жыць у такой краіне прыемна. Вось толькі б парадку ў ёй дабавіць.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**





*Экспанаты музея.*

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ



# КАНСЫСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

(КАТЭДРАЛЬНЫ САБОР СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА)

## ПАВЕДАМЛЯЕ

Да Беларускіх Весьцьнікаў Інфармацыі й да Беларускага Грамадзтва:

Нядаўна прэсавая агенцыя "Інтэрфакс" распаўсюдзіла на інтэрнэце паведамленьне, што Беларусь наведаў "патрыярх Беларускае аўтакефальнае Царквы (БАПЦ) Юры", які на прэс-канфэрэнцыі ў Менску заявіў, што "Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква выступае за справядлівае сястрынскае існаваньне з Расейскай і іншымі праваслаўнымі цэрквамі".

Апрача таго ён паведаміў "Інтэрфаксу", што адной із мэтаў ягонае візыты ёсьць садзеяньне "адраджэньню духовага жыцьця беларускіх вернікаў, якія бачаць іхную будучыню ў незалежнай беларускай царкве й незалежнай сувэрэннай дзяржаве, да чаго імкнуцца прагрэсыўныя сілы грамадзтва і, у пэўнай ступені, беларускі ўрад".

Далей "Інтэрфакс", паводле словаў аднаго йз "сьвяшчэннаслужыцеляў БАПЦ", падаў кароткую вестку пра стан гэнае "БАПЦ" у Беларусі, аб чым будзе мова далей, ды на заканчэньне дакінуў, што "патрыярхат БАПЦ" знаходзіцца ў ЗША".

Можна дапушчаць, што гэтая інфармацыя, як і ранейшыя весткі праз дзейнасьць Юры Рыжага ды Пётры Гушчы, была паўтораная й на бачынах беларускае прэсы.

Гэткім чынам яна атрымала від праўды, бо большасць грамадзтва яшчэ верыць, што весьцьнікі інфармацыі дэмакратычнага кірунку ставяць перад сабою заданьне знаёміць гэтае грамадзтва зь нясумнеўнаю праўдай.

Пераканацца ў гэтай праўдзе павінен быў-бы й "Інтэрфакс", паведамляючы пра падзею, як-ніяк, немалое вагі, бо размова пра прыезд у край ажно йз ЗША патрыярха нацыянальнае царквы...

Знайсьці яе, пры ахвоце, ня было-б цяжка, бо мейсцы, дзе знаходзяцца праваслаўныя патрыярхаты, шырока ведамыя й ніводнага зь іх няма ў ЗША.

Гэткім чынам адразу стала-б ясна, што "патрыярх... Юры" ніякі не патрыярх.

Дасьледуючы глыбей, можна было-б даведацца, што сапраўднае ймя гэтага чалавека Эмігідыюш Ежы Рыжы й, што ён неправаслаўны, а таму й ня можа мець дачыненьня да ніякае праваслаўнае царквы.

З гэтае-ж прычыны ён ніколі й ніякімі праваслаўнымі япіскапамі ня быў усьвячаны ў сьвятарскую, або япіскапскую годнасьць, ды апошняе й ня мог-бы мець, бо жанаты.

Апрача таго можна было-б выявіць, што ачолены ім "патрыярхат" знаходзіцца ў ягонай прыватнай кватэры, ды ня мае сярод беларускае эміграцыі ні вернікаў, ні парахвіяў, ані духавенства.

Із усяго гэтага няцяжка зразумець, што Эмігідыюш Ежы Рыжы, які выдае сябе за "патрыярха БАПЦ", ня мае ніякага дачыненьня, лучнасьці, ці супольнасьці зь Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою, што ўжо больш як 50 год дзее за межамі Беларусі, у тым ліку й у ЗША.

Кансысторыя БАПЦ у адумысловых выясьненьнях, што былі зьмешчаныя на бачынах "Царкоўнага Пасланца", які дасылаецца большасьці рэдакцыяў краёвае дэмакратычнае прэсы, ужо неаднаразова падавала й тлумачыла вышэй пададзеныя й іншыя факты, што датычаць асобы й дзейнасьці Эмігідыюша Ежы Рыжага, ды ягоных паплечнікаў, але, нажаль, уся гэтая інфармацыя засталася без увагі.

Затое, грэшныя паводле навукі Праваслаўнае Царквы словы ды сумнеўныя пад маральным паглядам учынкі ачоленых Эмігідыюшам Ежы Рыжым самасьвятаў і самазванцаў, ды яго самога, атрымліваюць бясконцы разгалос і рэкляму.

Ці-ж бо інакш, як грэхам, можна назваць ягоны крадзеж імя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ці-ж магчыма палічыць маральнымі ўчынкамі ягоныя выступы й заявы, у якіх ён выдае сябе за герарха, а нат і патрыярха гэтае, да ягоных падманаў няпрычаснае, Царквы.

Жаль у гэтай справе, аднак, не па душах Рыжага й ягоных паплечнікаў, якія самахоць і сьведама выбралі блудны шлях, а па то частцы беларускіх вернікаў, што, бачачы іхную будучыню ў незалежнай беларускай царкве, зь няведы даверліва прыймаюць за праўду нахабнае ашуканства гэных прайдзісьветаў.

На бяду гэтых вернікаў, атрыманыя імі ад Рыжага й ягонае хэўры "тайніцы" й выкананыя над імі "абрады", ніяк і ніколі ня будуць вызнаныя іншымі праваслаўнымі цэрквамі, ды яны назаўсёды застануцца ў адлучанай ад краёвага й сусьветнага Праваслаўя сэкце.

З пункту-ж гледжаньня беларускага адраджэньня сьмешна спадзявацца, каб людзі гэткага маральнага калібру, як Рыжы й ягоныя паплечнікі, маглі карысна спрычыніцца да "адраджэньня духовага жыцьця" якіх-колечы беларускіх вернікаў.

Затое, у выпадку незайснаваньня ў Беларусі запраўднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды пашырэньня сэкты Рыжага, можна з упэўненасьцяй сказаць, што Маскоўскі Патрыярхат ніколі не адмовіцца ад духова згубнае для нашага Народу акупацыі Беларусі.

З акупанцкага-ж намеру заблякаваць пашырэньнем сэкты Рыжага ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне й выводзіцца ўспомненае Рыжым "неадназначнае" дачыненьне да гэтае сэкты з боку беларускага экзархату РПЦ і дзяржаўнага камітэту для справаў рэлігіяў ды нацыянальнасьцяў, г. зн., што хоць ёй не дазваляецца рэгістраваць ейныя парахвіі, але й не забараняецца дзеяць, ды зманваць кефаліі.

Разам з гэтым, калі інфармацыя праз запраўдную БАПЦ, што ачоленая Я. М. Мітрапалітам Ізяславам, вычырквaецца з прэсавых паведамленьняў, ніякае забароны на махлярскую прапаганду йлжэ-патрыярха Рыжага ды йлжэ-япіскапа Гушчы няма, і яны адкрыта выхваляюцца дзясяткамі выдуманых імі, як і іхныя духоўніцкія годнасьці, парахвіяў у Беларусі.

Нажаль, гэтае зарганізаванае паводле сюжэту Гогалявага "Рэвізора" царкоўнае злачынства, бяскрытычна паўтараючы й пашыраючы выдуманую Рыжым і Гушчам лухту, падтрымліваюць ня толькі органы дэмакратычнае прэсы, але й некаторыя адраджэнскія згуртаваньні ды іхныя пасьлядоўнікі.

З увагі на ўсё вышэй сказанае Кансысторыя БАПЦ яшчэ раз катэгарычна заяўляе, што ні Эмігідыюш Ежы Рыжы, ні Пётра Гушча, ані хто-колечы зь іхных памочнікаў ніякае лучнасьці, дачыненьня, ці супольнасьці зь Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою, якая часова дзее за межамі Беларусі, ня маюць, а без дазволу злачынна крадуць Ейнае ймя.

У повязі з гэтым Кансысторыя БАПЦ заклікае ўсіх весьцьнікаў інфармацыі дэмакратычнага кірунку ў Беларусі, патрыятычныя згуртаваньні й адраджэнскі актыў узважыць шкоду беларускай нацыянальнай справе, якая вынікае з ашуканскае дзейнасьці Эмігідыюша Ежы Рыжага, Пётра Гушчы й іхных памочнікаў, ды замест неадумна служыць гэтаму нягоднаму падкопу пад духовыя асновы жыцьця Беларускага Народу, выкрываць усю глыбіню ягонае агіднасьці.

Сьцеражы, Божа, Беларускі Край!

**Барыс ДАНІЛЮК,**
**Сакратар Кансысторыі БАПЦ.**

**P.S.** Падаецца з захаваннем правапісу арыгінала.

ПОЛЬСКАЯ ШКОЛА Ў ГРОДНЕ






Адным з самых прыгожых будынкаў горада Ваўкавыска стала польская школа, урачыстае адкрыццё якой адбылося тут 2 кастрычніка. Яна ўзведзена на сродкі польскіх уладаў беларускімі будаўнікамі. Спраектавалі яе гродзенскія архітэктары. Усе прадметы ў новай школе будуць весціся на польскай мове.

НА ЗДЫМКАХ: першыя вучні; польская школа ў Ваўкавыску.

СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ

# ВЯСНА І ВОСЕНЬ Надзеі ГРУШЫ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

працавітасці і сумленнасці ў выкананні сваіх абавязкаў?! І Надзя Груша, уладкаваўшыся на працу сакратаром дырэктара прадстаўніцтва амерыканскай кампаніі "Джэнерал-мотарс" у Аўстраліі, усё жыццё так і працавала на адным месцы — бездакорна і ўзаемнаўдзячна! А яшчэ з беларусаў цешыліся і дзівіліся, як яны не толькі зладжана спяваюць свае мілагучныя, найчасцей тужлівыя, песні, але і супольна, усёй грамадой будуюць кожнаму асобнае жытло. Гэта так уражвала, што слова **талака** трывала ўвайшло ў мову і нядаўніх прышэльцаў, і тубыльцаў, што здавён жылі ў Аўстраліі.

Ва ўсім: і ў песнях, і ў скоках, і ў працы, і ў грамадскай дзейнасці — Надзя была завадатарам, жвавай і ўвішнай. Таму і ўпадабаў яе рослы і статны прыгажун Яўген Груша. Раз і назаўсёды, аж да гэтага да скалананця душы журботнага заўчаснага развітання. Яна была і ягонай радасцю, і трывалым надзейным апірышчам у клапатлівай грамадскай працы кіраўніка Федэральнай Рады беларускіх арганізацый. Яна была дбайнай гаспадыняй, чулай і клапатлівай маці траіх дзяцей, што магла, рабіла, каб не затухала беларускае жыццё на тым далёкім ад нас кантыненце: брала чынны ўдзел у агульнааўстралійскіх беларускіх з'ездах, узначальвала царкоўнае сястрынства, спявала ў царкоўным і свецкім беларускіх хорах, збірала грошы на дапамогу пасыпанай атрутным пылам Беларусі, наладжвала побыт і адпачынак "дзяцей Чарнобыля" ў Мельбурне.

На гэтае лета планавала разам з сястрой Кацяй прыехаць пасля той доўгай ростані ў Беларусь, якую ўспамінала так пяшчотна і часта, як згадвае родную мамачку дачушка ў далёкім замужжы ў песні, якую Надзя любіла спяваць.

Мы верым, нашая праўдзівая і адданая беларуска, што душа твая, пазбавіўшыся зямнога прыцяжэння, вернецца з далёкай Аўстраліі, дзе цяпер хораша раскашуецца ў зяленіве вясна, назад у Беларусь. Яе, загартаваную нягодамі, не спалохае золь і сівер, восеньская слата, якія пакуль што правяць тут свае правы. Ды благое мінецца, за зімой немінуча надыдзе вясна, і душы нашыя супольна ўзрадуюцца адроджанай Бацькаўшчыне.

Мір табе і вечны супакой, Божая душа!

**Яўген ЛЕЦКА.**

ЛІТАРАТУРНАЯ СКАРБОНКА

ЗМІТРОК выйшаў са школы яшчэ больш невясёлым, чым у ранейшыя дні. Усе яго непрыемнасці пачаліся таму, што ён не так гаворыць, як трэба. Праўда, летась, калі ён вучыўся ў першым класе, яму настаўніца пра гэта нічога не казала. Наадварот, яшчэ хваліла за тое, што ён так прыгожа гаворыць. Але новая настаўніца, якая стала вучыць яго ў другім класе, увесь час папраўляе яго, як і іншых дзяцей, і вучыць, як яна кажа, правільна і прыгожа гаварыць. Але ў Змітрака гэта зусім дрэнна выходзіць.

Ужо ў першы дзень, знаёмячыся з вучнямі і пытаючыся, як каго завуць, настаўніца сказала яму, што Змітраком называцца непрыгожа і што яна будзе зваць яго Дмітрыем. Прайшло ўжо некалькі тыдняў, але Змітрок ніяк не можа прызвычаіцца да новага імя. І калі настаўніца звяртаецца да яго, называючы Дмітрыем, яму здаецца, што гэта яна не яго, а некага іншага выклікае.

Пасля яна адвучвала Змітрака ад слова "як". Ён ніяк не можа ўцяміць, чаму непрыгожа гаварыць "як", а прыгожа "как". Яму, наадварот, "как" здаецца непрыгожым, і ён саромеецца вымаўляць гэта слова і маўчыць. Настаўніца садзіць яго, зазначаючы: "Странный ты мальчик, Дмитрий".

А сёння вучылі существительное. Змітрок ледзь навучыўся вымаўляць гэта слова. Пасля быў здзіўлены, калі зразумеў, што ўсё на свеце, як ёсць, — существительное. І душа Змітрака ніяк не магла прыняць гэтага. Як: і птушкі, і дрэвы, і рэчка, і звяры, і ўсё-ўсё — толькі существительное? Яму зрабілася страшна і сумна. І Змітрок стаў думаць, на што падобнае гэта дзіўнае существительное. У яго ўяўленні ўжо прамільгнула нешта страшэннае, але адразу знікла. Змітрака ў гэты час выклікала настаўніца:

— Ну, Дмитрий, приведи мне примеры существительного. Я тебя второй раз спрашиваю, а ты всё не слышишь.

Змітрок устаў, падумаў крыху і пачаў называць существительные. Пасля кожнага сказанага ім слова ён прыпыняўся, бо яны выклікалі ў яго ўяўленні жывыя малюнкі ўсяго, што ён бачыў і чым любаваўся кожны дзень, ідучы ў школу і назад.

— Бусел... — пачаў ён. І адразу ўявіў буслоў на вялізным і таўшчэзным лугавым дубе. Змітрок заўсёды падоўгу глядзеў на іх нават тады, калі яны, не варушачыся, стаялі на гняздзе...

— Гай... На імгненне праплыў перад вачыма невялічкі гай з яго бярозамі, такімі белымі, што яны Змітраку здаваліся пабеленымі, і ён ніяк не мог утрымацца, каб не правесці па кары некалькіх бярозак і пасля не пагледзець на руку: ці не засталася пабелка. І хоць рука



МАСТАЦТВА

## КАСМІЧНАЯ АДЫСЕЯ

**На парозе стагоддзяў хочацца нагадаць, што сярод шматтэм'я жывапісных і графічных твораў беларускіх майстроў — Космас уладарна абуджае ўяўленне нашых землякоў. Сведчанне гэтаму — работы народнага мастака Беларусі, акадэміка, уладальніка залатога медаля Гагарына Георгія Паплаўскага і заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі скульптара Івана Міско.**

Так, Беларусь слаўная не толькі касманаўтамі Пятром Клімуком і Уладзімірам Кавалёнкам. Між іншым, некалькі работ графічнага цыкла "Высокае неба" Георгія Паплаўскага набыў музей астранаўтыкі і аэранаўтыкі ў ЗША. І зусім не выпадкова беларускі мастак у свой час прымаў удзел у Міжнародным семінары па касмічнаму жывапісу, што праходзіў у Ісландыі. Бо тэма гэта ў творчасці Георгія Паплаўскага, хаця і не адзіная, — зусім не даніна модзе. Ён пастаянна вяртаецца да яе, аб гэтым сведчыць і цыкл "Шлях чалавека да Космасу", над якім мастак працаваў апошнія гады. "Я не магу цалкам адарвацца ад зямлі, — прызнаецца Паплаўскі. — Для мяне Космас паўстае праз сувязь з нашай планетай, трывогу за яе лёс. Павінна быць раўнавага Неба — Зямля. Між тым, яна парушана, і Неба прагінаецца пад антэнамі, спадарожнікамі і касмічнымі станцыямі..."

Але такі крыху крытычны погляд на асваенне Космасу зусім не перашкаджае беларускаму мастаку падтрымліваць сяброўскія сувязі з касманаўтам Аляксеем Лявонавым. Больш таго, Паплаўскі падкрэслівае: "...Мне не хацелася б спаборнічаць з Аляксеем Лявонавым, Андрэем Сакаловым, Уладзімірам Джанібекавым, якія лепш за мяне ведаюць Космас. І ўвогуле, я не прэтэндую на нейкае асобае месца ў распрацоўцы гэтай тэмы".

Сяброўскія сувязі звязваюць з Аляксеем Лявонавым і скульптара Івана Міско. І не толькі з ім, бо беларускі скульптар стварыў унікальную партрэтную галерэю касманаўтаў. Ён не раз бываў у Зорным гарадку, і хаця не давялося пазнаёміцца з першым касманаўтам Юрыем Гагарыным пры жыцці, але Яго Вялікасць Выпадак садзейнічаў таму, што скульптар пазнаёміўся з яго маці, сям'ёй і многія гады быў звязаны з імі. Між іншым, мемарыяльная дошка на будынку акадэміі імя Жукоўскага ў гонар Юрыя Гагарына зроблена Іванам Міско.

...Хаця касмічныя палёты ўжо перасталі быць сенсацыяй, ператварыліся амаль што ў будзённую справу, але работы мастакоў па-ранейшаму прыцягальныя. Бо гэта не проста касмічны летапіс, занатаванне падзей і з'яў, звязаных з засваеннем касмічнай прасторы, але асабістае мастакоўскае сведчанне, асэнсаванне іх. Хто ведае, магчыма, на борце касмічнага карабля, што ў XXI стагоддзі адправіцца ў доўгае падарожжа на аддаленую планету, будуць і некаторыя з іх твораў.

Лідзія ЧАРНОВА.

АСОБА

# ЧАРАЎНІК ПРАФЕСАР БРАНІЦКІ

**У мінулым годзе ў Бельгіі праходзіў Міжнародны кангрэс па сістэмах запісу фатаграфічнай інфармацыі, у рабоце якога ўдзельнічалі больш як 2 тысячы дэлегатаў з усіх куткоў свету. Былі тут і вучоныя з Беларусі. Адзін з іх — доктар хімічных навук, прафесар Белдзяржуніверсітэта Генадзь Браніцкі. У 1986 годзе ён прымаў удзел у рабоце аналагічнага міжнароднага форуму ў Германіі, у 1990 — у Кітаі. Цяпер рыхтуецца да чарговага кангрэсу, які пройдзе ў 2002 годзе ў Токіо. Пяты год працуе дэканам хімічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Генадзь Браніцкі — не толькі вядомы вучоны, але і неардынарны, творчы чалавек. Асоба. Сёння ён — наш госць.**



**— Мяркую, беларускія вучоныя мелі што сказаць на апошнім кангрэсе!**

— Тут было няшмат паведамленняў пра навінкі ў навуцы, але некаторыя з іх належалі менавіта беларускім вучоным, што вельмі прыемна.

У нас на факультэце традыцыйна праводзяцца работы ў галіне стварэння фатаграфічных матэрыялаў, у якіх не ўтрымліваецца серабро ці ўтрымліваецца ў невялікай колькасці. У працэсе даследаванняў ажыццяўляюцца распрацоўкі, якім няма аналагаў у сусветнай практыцы. Напрыклад, фатаграфічны працэс, калі на чорна-белым матэрыяле можна атрымаць адлюстраванне ў колеры, максімальна набліжаным да рэальнага. Мы — са мною разам вучоныя-энтузіясты акадэмік Вадзім Свірыдаў, старшы навуковы супрацоўнік Віталь Сташонак — назвалі гэты працэс паліхромным. Метад даволі просты. Фатаграфіі атрымліваюцца вельмі якаснымі, і, калі б наша вынаходніцтва было вядомае на час нараджэння фотасправы, магчыма, сёння менавіта яно было б самым папулярным.

**— Відаць, гэта не адзінае ваша вынаходніцтва?**

— Канешне. Не так даўно мы распрацавалі арыгінальны працэс, асабліва важны для жыхароў Беларусі, — зніжэнне экспазіцыйных доз пры рэнтгенадыягностыцы захворванняў. Такі метад можна паспяхова выкарыстоўваць і ў тэхніцы пры зварцы вузлоў — для дыягностыкі якасці зваркі...

**— Генадзь Аляксеевіч, многія ведаюць вас не толькі як вучонага, але і як мастака, аўтара дзівосных карцін з нітак і цвікоў. Дзе і як вы пазнаёміліся з гэтым незвычайным мастацтвам!**

— З нітачным дызайнам я ўпершыню сустрэўся ў Англіі, пазней — у ЗША. Там ужо выдадзена некалькі дапаможнікаў па гэтаму віду мастацтва. Нітачнаму дызайну абучаюць у некаторых школах заходніх краін і ЗША. Мне таксама вельмі захацелася навучыцца самому, а пасля навучыць іншых рабіць падобны цуд. Мая кніга "Карціны з каляровых нітак і цвікоў", якую выпусціла выдавецтва "Палымя" чатыры гады таму, у нашай краіне — першая.

**— Многія ведаюць і вашы здольнасці "чараваць". Кажуць, у шклянцы можаце вырасціць сад, у прабірцы — кветкі, а на більярдным шары — валасы!**

— Вучоны-хімік — заўсёды крыху чараўнік. Доследы па вырошчванню "валасоў" на алюмасілікатных шарыках розных памераў даюць падставу лічыць, што можна атрымаць такі цуд і на звычайных більярдных шарах. Зусім як на галаве — у выглядзе пушку, шчоткі альбо кудзерак. Даўжыня такіх "валасоў" — 4—6 сантыметраў пры таўшчыні, адпаведнай дыяметру чалавечага воласа. Іх ростам можна кіраваць — паскорыць альбо замарудзіць.

Так можна вырасціць водарасці, сад альбо кусты з галінкамі. І зусім як сапраўдныя — кветкі. Дзіўныя "валасы" — гэта крышталі амальгамы серабра: іголкі, якія нагадваюць лядзяш альбо вермішэль. Мудрагелістыя крышталі амальгамы ўтвараюцца на паверхні ртуці — пры яе ўзаемадзеянні з растворам азотнакіслага серабра.





*"Дрэвы Дзіяны".*

**— Ці даўно ведае чалавецтва пра гэтыя дзіўныя крышталі і ў чым іх цікавасць для хімікаў і матэрыялазнаўцаў!**

— Іх ведалі з даўніх часоў. Называлі "дрэвам Дзіяны". Пад словам Дзіяна мелася на ўвазе серабро. У старажытнагрэчаскай міфалогіі Дзіяна — багіня Месяца. Хімікаў цікавіць механізм росту крышталёў у прыродных умовах, а матэрыялазнаўцаў — іх карысныя ўласцівасці. Даказана, што механічная трываласць крышталёў можа ў сотні і нават тысячы разоў перавышаць трываласць тых жа рэчываў у звычайным стане.

**— Генадзь Аляксеевіч, вы вельмі лірычна ўспрымаеце не толькі, здавалася б, фундаментальную навуку, але і наша, далёкае ад дасканаласці сучаснае жыццё. Як вам гэта ўдаецца!**

— Ёсць на гэты конт вельмі слушнае біблейскае выказванне: "Мудры той, хто ўмее радавацца малому..."

Святлана ХОРСУН.



*Загадка.*



*Зорачка.*

Мікола ЕРМАЛОВІЧ

# СУЩЕСТВИТЕЛЬНОЕ

ГУТАРКА

Змітрок. На момант з'явілася поле з жытнёвай рунню, такою непрывычна зялёнаю ў гэты час, калі ўсё ўжо пачало жаўцець...

— Шпак... Адразу ў вачах узнік ясень ля бацькоўскай хаты, на ім каля шпакоўні сядзіць шпак. Ідучы ў школу і вяртаючыся назад, Змітрок заўсёды махаў яму рукой...

Змітрок хацеў яшчэ сказаць некалькі слоў, але яго спыніў ласкавы голас настаўніцы:

— Подожди, Дмитрий, ты опять неправильно говоришь. Надо говорить не бусел, а аист, не гай, а роща, не жито, а рожь, не шпак, а скворец. Ну повтори, как нужно говорить.

Змітрок адразу збянтэжыўся. Яснасць, якая пачала ўсталёўвацца ў яго галаве, знікла. Значыць, не кожнае слова можа быць существительным. Спачатку трэба, каб яно стала нейкім пярэваратнем, аб якіх ён ведаў з дзедавых казак, і толькі тады яно можа зрабіцца существительным.

была чыстая, але і ў наступныя разы ён праводзіў рукой па бярозках і пасля глядзеў на яе...

— Жыта... — працягваў

і Змітрок маўчаў. Настаўніца зноў сказала паўтарыць словы.

— Аист, роща, скворец, рожь, — услед за настаўніцай гаварыў Змітрок. І дзіўна: гэтыя словы нічога не выклікалі ў яго ўяўленні, нібы ён называў нешта, ніколі не бачанае ім.

— Садись, Дмитрий, и никогда не капризничай, когда тебя учат.

І вось зараз, ідучы са школы, ён прадаўжае раздумваць над тым дзіўным существительным. Ён усё ніяк не можа ўявіць, на што яно падобнае. Глыбока задумаўшыся, Змітрок быў безуважны да ўсяго. Ён не палюбаваўся бусламі, а яны ж сёння лыталі каля гнязда, не правёў рукой па кары бярозак, хаця ў гэты сонечны дзень яны выглядалі асабліва белымі, безуважна прайшоў каля жытнёвай руні і не прывітаў шпака. Дома ён таксама думаў пра существительное.

А ўначы прысніўся яму сон. Нібы ідзе ён са школы і бачыць, як насустрач яму паўзе нешта вялізнае, доўгае і таму такое страшнае. Ды не паўзе яно, а ўсё расцягваецца ўдоўж і таўсцее. Змітрака апанаваў страх. Ён азірнуўся назад, па баках — нікога не было, і таму стала яшчэ больш вусцішна. А тое доўгае, тоўстае, пачварнае ўсё расцягвалася і набліжалася да яго. Змітрок немым крыкам спытаў:

— Што гэта?

Хтосьці нябачны адказаў яму:

— Гэта ж существительное.

А Существительное ўжо расцягнулася да клёна, падняло галаву і пытаецца ў шпака, які сядзеў там:

— Ты кто?

— Я шпак, — адказвае той.

— Нет, ты не шпак, а скворец, — гаворыць Существительное, разяўляе сваю зяпу і глытае шпака разам са шпакоўняй і ясенем і, патаўсцеўшы, расцягнулася далей.

Хаця Существительное было страшным і агідным, аднак голас яго ласкавы, і ён здаўся Змітраку вельмі знаёмым.

— Дык гэта ж такі голас у нашай настаўніцы, — пазнаў ён.

А Существительное ўжо расцягнулася да гаю, падняло галаву, і Змітрок зноў чуе:

— Ты кто?

— Я гай.

— Нет, ты не гай, ты — роща.

І гай гэтак жа знікае, як і шпак, а Существительное, зноў патаўсцеўшы, расцягваецца далей, глытаючы ўсё на сваім шляху. І ў мілым кутку Змітрака застаўся толькі бусел.

— Можа яно не заўважыць бусла? — падумаў з надзеяй Змітрок. Ды не! Вось яно расцягваецца ў бок дуба, уздымае галаву, і да Змітрака даходзіць жахлівая гутарка:

— Ты кто?

— Я бусел.

— Нет, ты не бусел, а аист... І бусел знікае разам з дубам. Што ж яно цяпер будзе глытаць? А пачварнае Существительное зноў пачало расцягвацца і ўжо ў бок Змітрака. Чамусьці ён раней не думаў, што яно можа праглынуць і яго. І толькі зразумеўшы гэта, скамянеў ад страху. А Существительное ўжо расцягнулася да яго.

— Ты кто? — пытае яно.

— Я Змітрок, — ледзь паварочваючы языком, адказвае ён.

— Нет, ты не Змитрок, ты — Дмитрий, — гаворыць яно, разяўляе зяпу. Тут Змітрок прачнуўся.

— Добра, што я прачнуўся, а то яно і мяне з'ела б, — па-дзіцячаму падумаў Змітрок. Але страх яго быў нядоўгім. Ён скора змяніўся радасцю, што Змітраку нарэшце ўдалося даведацца, на што падобнае гэта дзіўнае Существительное.

АНШЛАГ

**20 кастрычніка ў культурным жыцці Беларусі адбылася значная і цікавая падзея: у касцёле святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл на плошчы Незалежнасці ў Мінску) у ніжніх памяшканнях урачыста адкрылася Малая зала Дзяржаўнай філармоніі. Менавіта ад гэтай даты тут і будзе размяшчацца Беларускі тэатр аднаго акцёра "Зьніч". Сёлета ён распачынае свой дзесяты сезон. Дзесяць гадоў — тэрмін невялікі, узрост, як на побытавае чалавечае вымярэнне, — дзіцячы. Ды ў абсягах культуры і мастацтва, там, дзе духоўнасць, час праяўляецца зусім па-іншаму.**



*У час адкрыцця Малой залы Дзяржфілармоніі.*

# ЖЫВАТВОРНЫ АГОНЬ «ЗЬНІЧА»

**КЛЮЧ ДА ПОСПЕХУ** Галіны Дзягілевай — прынцыпова нацыянальная пазіцыя, якой так бракуе нашым, у тым ліку і тым, што адбываюць свае ролі ў нацыянальных тэатрах, артысткам і артыстам, уменне яднаць вакол сябе і заахвочваць да працы людзей не на прагматычным інтарэсе, а на грунце духоўнасці.

Без гэтага "чароўнага ключа" напэўна не ўдалося б Дзягілевай утрымацца ў нашым жорсткім жыцці ўсе мінулыя гады, калі ў тэатра не было таго, без чаго, здавалася б, ніякая творчая дзейнасць у прынцыпе немагчымая — уласнага памяшкання. Але ж выручалі добрыя людзі. Вельмі спрыяльна паставілася да тэатра кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў і Дома літаратара ў той час, калі ён быў уласнасцю не глухога да патрэб нацыянальнай культуры чынавенства, а саміх пісьменнікаў. Але асаблівая ўдзячнасць дырэктару Нацыянальнай бібліятэкі, такой жа мілай і інтэлігентнай Галіне, па бацьку Мікалаеўне, Алейнік, якая дала магчымасць "Зьнічу" на працягу некалькіх гадоў творча самавыяўляцца ў сценах галоўнага кнігасховішча краіны. Але ўмовы для ўвасаблення спектакляў там былі далёка не ідэальнымі.

Мяркую, лёс звёў іх не выпадкова — Галіну Дзягілеву і пробашча касцёла святых Сымона і Алены, ксяндза-магістра Уладзіслава Завальнюка, у асобе якога арганічна ўвасобіліся лепшыя традыцыі беларускага каталіцкага святарства: не толькі самааддана служыць Богу, але і Беларусі, яе культуры і мове, падоранай нам, як і кожнаму іншаму народу, Тварцом усяго існага. Так, сёння Беларусі і яе народу нялёгка, а мова, душа народа, перажывае, бадай, самы цяжкі перыяд свайго існавання. Але хіба ж праўдзівая, высакародная сутнасць хрысціянства не заключаецца ў тым, каб імкнуцца на дапамогу кволым і падупалым духам?! А таму Чырвоны касцёл сёння — светач духоўнасці, узор таго, як можна і трэба ў святарскай дзейнасці паядноўваць узвышанае і зямное, служыць Богу і людзям. І тое, што сцвярджае ўсёй сваёй творчай, мастацкай сутнасцю тэатр "Зьніч" і яго нязменная кіраўніца Галіна Дзягілева, — цалкам арганічнае для духоўна-маральнай аўры, што пануе ў гэтай святыні, увасоблена ў святарскай і грамадскай дзейнасці Уладзіміра Завальнюка.

Той, хто пабыў у касцёле 20-га кастрычніка, на працягу ўсёй вечарыны адчуваў на сабе дабратворнае ўздзеянне гэтай аўры. Сярод запрошаных было шмат заслужаных і вядомых на Беларусі людзей: папскі нунцый (пасланнік Ватыкана), яго Эксцэленцыя Дамінік Грушоўскі, народная артыстка Беларусі Аляксандра Клімава, аўтар "Старажытнай Беларусі" Мікола Ермаловіч, доктар філалогіі Адам Мальдзіс, паэт Генадзь Бураўкін, грамадзянін Канады, выхадзец з Беларусі граф Прушынскі, дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ігар Андрэеў, які сказаў прывітальнае слова і разам з пробашчам касцёла Уладзіславам Завальнюком перарэзаў сімвалічную стужачку на ўваход у тэатр.

**НА ВЕЧАРЫНЕ ПАНАВАЎ** дух хрысціянскай згоды і яднання. Усе пачуваліся дзецьмі канкрэтнага беларускага народа, якім былі дарагія і блізкія і спевы хору "Голас душы", і камернага хору Ігара Мацюхова (асабліва кранальным было выкананне рэлігійнага гімна "Магутны Божа"), і песні Віктара Скорабагатава пад акампанемент Галіны Каржанеўскай, і выступленні вядомых дзеячаў культуры на адкрыцці прымеркаванай да гэтага выставы выхаванцаў народнага мастака Беларусі Барыса Герлавана "Кульмінацыя", і потым, калі людзі выказвалі свае ўражанні ад тэатра "Зьніч", толькі што прагледжаных урыўкаў з яго спектакляў.



*Галіна ДЗЯГІЛЕВА ў спектаклі "Віленскія мроі".*

Іх было пяць. Першай, як і належыць, выступіла сама Галіна Дзягілева ў ролі Юліяны Менке Вітан-Дубейкоўскай у спектаклі "Віленскія мроі", прысвечаным апошнім дням волата беларускага Адраджэння Івана Луцкевіча. Гераіня — рэальная жанчына, па нацыянальнасці немка, якая глыбока і прачула пранікласся клопатамі віленскіх беларусаў, стала вернай сяброўкай Луцкевіча і пакінула пра той час і тых людзей цікавыя ўспаміны. Апрача гэтага, у спектакль арганічна ўпляліся вершы паэткі Беласточчыны Надзеі Артымовіч. Актрыса здолела пранікнуць, ужыцца ў сутнасць характару сваёй гераіні ды перадаць вабную адметнасць нямецкага акцэнту ў беларускай гамонцы гэтай неардынарнай жанчыны.

Тое, што творчасць геніяльнага Дастаеўскага нялёгка ўвасабляць на сцэне, — агульнавядома. Весці ці, дакладней, увасобіць спектакль "Кроткая" запрасілі акцёра Дзяржаўнага рускага тэатра, заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Шэлестава. Ён, мяркую, добра справіўся з нялёгкай задачай і з беларускай мовай, якая гучыць у яго вуснах нязмушана і натуральна.

Нібы па ўзмаху чароўнай пераўтваральнай палачкі напружаны псіхалагізм Ф. Дастаеўскага пераходзіць на сцэне ў вясёлую, напоўненую гарэзным смехам і жартамі, трапнай першароднасцю гаваркога беларускага слова п'есу маладых драматургаў Пятра Васючэнкі і Сяргея Кавалёва "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага". Спектакль лялечны, умоўны, а іграе яго (прытым выдатна!) артыст Дзяржаўнага лялечнага тэатра Беларусі Вячаслаў Шакаліда, увесь час віртуозна пераўвасабляючыся то ў аднаго, то ў другога пана.

"І творыць цуд актрыса — Горцава Ларыса" — такую незвычайную назву мае спектакль, які вядзе заслужаная артыстка Тэатра юнага гледача, дзе Ларыса працуе ці не ад самага пачатку сваёй тэатральнай дзейнасці. Менавіта тут яна напаткала і сваё жаночае шчасце, пабраўшыся з колішнім загадчыкам літаратурнай часткі тэатра, сёння вядомым беларускім паэтам і драматургам Артурам Вольскім, які зусім нядаўна адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе. Але выглядае — дай Бог кожнаму. Ды іначай пры такой, не толькі прывабнай, але як з залы глядзець, дык і юнай жонкі, проста нельга. У спектаклі яны іграюць разам, супольна, але ў паказаным на вечарыне фрагменце Горцава "тварыла цуд" сама, а яе партнёр па спектаклю і па жыцці захопленымі вачыма цешыўся з залы на гульню сваёй вечна юнай жонкі-красы.

На фоне прафесіяналаў, тых, хто штодзённа зарабляе свой хлеб у тэатры, крыху слабей выглядаў у спектаклі "У краіне светлай, дзе я ўміраю" ў ролі Максіма Багдановіча наш беларускі "салоўка" Вячаслаў Статкевіч, які спявае не толькі ў дзяржаўным ансамблі "Свята", але



*Вячаслаў ШАКАЛІДА.*

выконвае абавязкі сакратара Саюза фальклярыстаў ды праяўляе актыўнасць і ў іншых абсягах грамадскай дзейнасці. Аднак, як сказаў класік, "служенье муз не терпит суеты". Тэатр жа патрабуе, як і жанчына, якая ведае сабе цану, аднаЛюбства, а калі больш дакладна — прафесіяналізму, самаадданы, умення пераўвасабляцца ў вобраз і жыць ім, а не проста выконваць ролю, дэкламаваць вершы і спяваць песні.

**...ДЭКЛАРАТЫЎНАСЦЬ І СТАТЫЧНАСЦЬ** вобраза, што вядуць да адсутнасці ўнутранага руху спектакля, а вынікае, да яго несцэнічнасці — вось тыя Сцыла і Харыбда, якія падпільноўвалі тэатр ад пачатку яго дзейнасці. На пярэднім плане тут найчасцей былі не ўласна творчыя, мастацкія, а культурна-асветніцкія задачы, звязаныя з папулярызацыяй беларускай гісторыі. Але ж без пастаноўкі і вырашэння ўласна мастацкіх задач тэатр, як з'ява творчая, можа ўвогуле закасцянець, змізарнець, а ўрэшце, і самазнішчыцца. Гэта, напэўна, добра адчувала і разумела сама Галіна Дзягілева, як кіраўніца "Зьніча" і яго вядучая артыстка. А таму, не адмаўляючыся абранага накірунку на беларускасць, яна імкнулася надаць спектаклям большай арганічнасці ў тэатральным увасабленні істотных для грамадства ідэй, тэм, вобразаў. У гэтым сэнсе, на маю думку, "Віленскія мроі" ў параўнанні з ранняй "Рагнедай" — значны крок наперад.

Хацелася б спадзявацца, што цяпер, калі пераадолены такія істотныя для жыццядзейнасці тэатра моманты, як набыццё ўласнага памяшкання, вырашаны іншыя праблемы, творчы дух "Зьніча" будзе выяўляцца больш разняволена і паслядоўна. Для істотнага абнаўлення і выхаду да новых далягладаў, магчыма, варта прывабіць да супрацоўніцтва такіх вядомых беларускіх рэжысёраў-наватараў, як Валерый Мазынскі, Мікола Пінігін, Рыд Таліпаў. Што датычыць акцёраў, то, мне здаецца, ёсць яшчэ нявыкарыстаныя цікавыя магчымасці ў пошуку таленавітых і прыдатных менавіта для Тэатра аднаго акцёра асоб. У якасці прыкладу назаву акцёра "Вольнай сцэны" Міколу Рабычына, вельмі адметнага сваёй індывідуальнасцю і цэласнасцю. У чымсьці ён мне нагадвае Чарлі Чапліна. А яшчэ такога "індывідуала", як артыст-танцоўшчык Балабайка са славутых "Харошак". Тэатр аднаго акцёра, як ніякі іншы калектыў, дае магчымасць праяўляцца індывідуальным асаблівасцям таленту напоўніцу.

У завяршэнне нельга не сказаць хоць некалькі слоў пра мастака-афарміцеля сцэны Леаніда Дзягілева, загадчыка кафедры дызайну Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе ён да нядаўняга часу меў пасаду яшчэ і прарэктара. Ды галоўнае ўсё ж у кантэксце нашай гаворкі не гэта, а што Леанід Яўсеевіч, муж Галіны Дзягілевай, самы шчаслівы і нязменны прыхільнік яе таленту, яе паплечнік і дарадца ва ўсе гэтыя няпростыя для станаўлення і самавызначэння тэатра часы.

**ПРЫЙШОЎ ЧАС ПАДНЯЦЦА** "Зьнічу" да вяршынь, што ўласцівыя лепшым тэатрам такога тыпу на агульнаеўрапейскім абшары.

То няхай жа жыватворны дух, што вітае ў касцёле святых Сымона і Алены, дабратворна паспрыяе далейшаму творчаму пасталенню тэатра "Зьніч" і новым поспехам яго заснавальніцы і натхняльніцы, вядучай артыстцы і слаўнай жанчыне Галіне Дзягілевай, якая, спадзяюся, яшчэ не адзін раз парадуе сваімі спектаклямі і беларусаў замежжа. Тэатр аднаго акцёра, як ніякі іншы, вельмі прыдатны да гэтага.

**Яўген ЛЕЦКА.**

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 43**

**Па гарызанталі:** 5. Пернік. 6. Персік. 9. Парыс. 12. Піяла. 13. Памір. 14. Плато. 18. Павіян. 19. Пергамент. 20. Пістон. 23. Пусан. 26. Пліса. 27. Пірэнеі. 28. Падвал. 29. Пігмеі. 32. Паленаў. 34. Паэма. 35. Пасаг. 40. Пампеі. 41. Пастарнак. 42. Пароль. 46. Павук. 47. Парыж. 49. Пугач. 50. Прада. 51. Полацк. 52. Пікасо.

**Па вертыкалі:** 1. Петыт. 2. Пінжак. 3. Песета. 4. Піфія. 7. Партал. 8. Плутон. 10. Пікет. 11. Плынь. 15. Пярун. 16. Партэр. 17. Пінск. 21. Пантаміма. 22. Плісецкая. 24. Пілатаж. 25. Пелікан. 30. Пейзаж. 31. Павет. 33. Пасат. 36. Палтус. 37. Пацук. 38. Палас. 39. Плеяда. 43. Паліца. 44. Пырнік. 45. Папоў. 48. Проса.


**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

**РЭДАКЦЫЯ:**
Адказны сакратар **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС:** 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

**ТЭЛЕФОНЫ:** (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2082.
Падпісана да друку 1.11.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).